Пролетарыі усіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 24

ЛІСТАПАД 1934 Г.



МЕНСК — 1934

Bjuleten'. Wr.4746

---

Infarmacyjny bjuleten'
N.24. Mensk-1934 god.

Informationsbulletin.
N.24 Minsk 1934.

2,7

# I. Афіцыйны аддзел.



## Пастанова

### Прэзідыума Цэнтральн. Выканаўч. Камітэта БССР

**Аб выкананні пастаноў Урада СССР і БССР па спрашчэнні справаздачнасці у сельсоветах і РВК.**

Заслухаўшы даклад Кіраўніцтва Наргасучота БССР аб выкананні пастаноў урада СССР і БССР па спрашчэнні справаздачнасці ў сельсоветах і райвыканкомах, Прэзідыум ЦВК БССР адзначае, што побач з укараненнем у большасці сельсоветах первічнага ўчота, есць і такія сельсоветы (Улукаўскі, Пакалюбіцкі, Жаробінскі—Гомельскага раёна, Пачаеўскі і Замоцкі Чашніцкага раёна, Кайкаўскі—Менскага раёна і інш.), ў якіх, у выніку недаацэнкі справы учота з боку работнікаў гэтых сельсоветаў і РВК, укараненне гэтага учота ідзе вельмі марудна.

Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць РВК разам з інспектурай Народна-Гаспадарчага Учота на працягу кастрычніка-лістапада г. г. праверыць укараненне первічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах і забяспечыць поўнае яго увядзенне. Для падўгульнення вынікаў работы па укараненню первічнага ўчота ў бягучым годзе і для інструктажа на 1935 год, правесці у снежні г.г. райнарады сакратароў і рахункаводаў сельскіх советаў.

Абавязаць Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР забяспечыць пасылку работнікаў цэнтральнага апарата ў найбольш буйныя раёны для інструктажа на гэтых нарадах.

2. Прапанаваць райвыканкомам забяспечыць упарадкаванне учота і справаздачнасці у аддзелах РВК, асабліва ў Райза, райАНА і Райздраве, а таксама наладзіць учот насельніцтва ў сельсоветах і раёнах.

3. Абавязаць наркаматы і цэнтральныя установы поўнасцю забяспечыць да 1-га лістапада г.г. усе РВК і сель-

советы кнігамі і бланкамі справаздачнасці і учота на 1935 год.

4. Прапанаваць Кіраўніцтву Наргасучота БССР устанавіць сталы нагляд за далейшым укараненнем зацверджанай для сельсоветаў і РВК справаздачнасці і учота, вядучы рашучую барацьбу супроць парушэнняў устаноўленых форм.

5. Даручыць Кіраўніцтву Наргасучота БССР, на падставе вывучэння ужывання устаноўленых форм справаздачнасці і учота ў сельсоветах і РВК, праводзіць работу па далейшаму спрашчэнню справаздачнасці і учота, прыцягваючы да гэтай справы работнікаў сельсоветаў, РВК і адпаведных наркаматаў.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта БССР *А. Чарвякоў*.

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта БССР *М. Леўкоў*.

13 кастрычніка 1934 г.
г. Менск.

---

## Аб рэзультатах праверкі выканання наркаматамі цэнтральнымі установамі, раённымі арганізацыямі пастаноў СНК СССР аб скарачэнні справаздачнасці.

*Пастанова ўпаўнаважанага КСК пры СНК СССР па БССР*

1. Адзначыць, што з боку асобных наркаматаў (Наркомасветы, Наркамзем) і раду цэнтральных і раённых арганізацый (Белкаапсаюз, Белдзяржспірт, Лесбел, крычаўскі райвыканком, касцюковіцкі райза, асіпавіцкі райана) было дапушчана грубае нарушэнне пастаноў партыі і ўрада аб скарачэнні справаздачнасці, якое выявілася ва ўвядзенні і спуску нізавым органам незаконных форм справаздачнасці.

2. Лічыць зусім недапушчальным дзеянні інспектара Наргасуліку Старадарожскага раёна тав. Львовіча, які, замест рашучай барацьбы за правядзенне ў жыццё пастановы ўрада аб упарадкаванні і скарачэнні форм справаздачнасці і ўліку, сам парушыў гэту пастанову сваім незаконным патрабаваннем ад сельсоветаў вестак, не прадугледжаных зацверджанымі формамі сельсавецкай справаздачнасці.

3. Выяўленыя факты грубага парушэння рашэнняў урада аб скарачэнні справаздачнасці, аб недастатковым кіраўніцтве і кантролі з боку кіраўніцтва Наргасуліку БССР

за выкананнем гэтых пастаноў і непрыняцця ім больш рашучых мер барацьбы з канкрэтнымі віноўнікамі парушэння ўчотнай дысцыпліны.

Выходзячы з гэтага пастанаўляю:

1. Дырэктару Белдзяржспірта т. Кузмічову за патрабаванне ад заводаў прадстаўлення незацверджаных форм справаздачнасці—у сувязі з усведамленнем зробленай ім грубай памылкі і абяцаннем больш гэтага не паўтараць—абмежавацца абвяшчэннем яму вымовы.

2. Начальніку ТПС Белдзяржспірта тав. Куноўскаму за спуск заводам шматлікіх і грамоздскіх форм незацверджанай справаздачнасці—абвясціць строгую вымову з папярэджаннем.

3. Загадчыку Асіпавіцкім райана тав. Цвейфель за шматразовы спуск школам незацверджаных форм справаздачнасці, а таксама за выкананне незаконных патрабаванняў справаздачнасці з боку асобных работнікаў НКАсветы—улічваючы прызнанне ёю сваей памылкі—абмежавацца абвяшчэннем вымовы.

4. Загадчыку Касцюковіцкім райза тав. Яцкевічу і б. загадчыку райза тав. Залескаму за сыстэматычныя патрабаванні ад калгасаў незаконнай справаздачнасці—абвясціць вымову.

5. Прыняць да ведама заяву намесніка наркамзема тав. Каранеўскага, што ім будзе наложана адміністрацыйнае спагнанне на работнікаў апарата Наркамзема, вінаватых у парушэнні пастаноў СНК Саюза аб справаздачнасці, і што з яго боку будуць прыняты меры да выкаранення падобных з'яў. Аб выкананні будзе паведамлена ўпаўнаважанаму КСК у пяцідзенны тэрмін.

6. Прыняць да ведама заяву намесніка НКАсввeты тав. Ляшчынскага аб тым, што ім будзе наложана адміністрацыйнае спагнанне на ўсіх сваіх работнікаў, патрабаваўшых прастаўлення незаконнай спрвваздачнасці, і што з яго боку будуць прыняты меры да выкаранення падобных з'яў. Аб выкананні будзе паведамлена ўпаўнаважанаму КСК у пяцідзённы тэрмін.

7. Прыняць да ведама заяву нам. нач. УНГУ тав. Кацнельсона, што ім абвешчана суровая вымова з папярэджаннем інспектару Наргасуліку Старадарожскага раёна тав. Львовічу за яго патрабаванне ад сельсоветаў незаконнай справаздачнасці, а таксама аб тым, што ім будуць даны ўказанні райінспектарам Наргасуліку аб прыцягненні да адказнасці за парушэнне законаў аб справаздачнасці як тых, якія патрабуюць, так і тых якія даюць незацверджаныя формы справаздачнасці.

8. Прыняць да ведама заяву нам. пракурора рэспублікі тав. Глезерава, што ім будзе прапанавана райпракурорам у тэрміновым парадку разгледзець усе наяўныя ў іх справы на асоб і ўстановы, вінаватых у патрабаванні незаконнай справаздачнасці, а таксама прыцягнуць да адказнасці асоб і ўстаноў выконваючых незаконныя патрабаванні аб справаздачнасці.

9. Адзначыць, што пад відам розных планавых вестак спускаюцца патрабаванні на прадстаўленне незацверджаных форм справаздачнасці.

Звярнуць увагу ўсіх кіраўнікоў наркаматаў і арганізацый, што замест таго, каб патрабаваць выканання зацверджанай справаздачнасці, асобныя арганізацыі займаюцца спусканнем уласных, незацверджаных форм, чым ствараюць загрузку работнікаў апарата непатрэбнай работай, лішняе расходванне паперы і сродкаў і загрузку апарата сувязі. Гэта-ж з'яўляецца ва многіх выпадках прычынай таго, што ўстановы і прадпрыемствы не выконваюць устаноўленую законам справаздачнасць.

10. Заслухаць асобна пытанне аб парушэнні пастаноў СНК Саюза аб справаздачнасці Лесбелам, Белкаапсаюзам і крычаўскім РВК.

Ч. в. а. упаўнаважанага КСК пры СНК СССР
па БССР *Каменеў М. М.*

---

## Загад № 424

### па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

**ад 16-га кастрычніка 1934 г.**

§ 1.

Замест правядзення рашучай барацьбы з парушыцелямі учотнай дысцыпліны, некаторыя інспектуры Наргасучота праяўляюць гнілаліберальныя, адносіны да гэтай важнейшай учотнай справы, што з'яўляецца простым парушэннем дырэктыў партыі і ураду.

§ 2.

Праведзенай выбарачнай праверкай у некаторых раёнах высвятлена, што раённым арганізацыям спушчаны незацьверджаныя формы справаздачнасці, а райінспектары Наргасучота зусім не пацікавіліся правесці праверку і прыняць адпаведныя меры. У прыватнасці, інспектар Стара-Дарожскага раёна т. Львовіч не толькі не змагаўся за учотную

дысцыпліну, але і сам яе парушыў, шляхам патрабавання ад сельсоветаў звестак аб нацскладзе. Інспектар Касцюковіцкага раёна т. Лугаўцоў не забяспечыў увядзенне первічнага ўчота ў Бялынкавіцкім сельсовеце.

§ 3.

Абвясціць суровую вымову Стара-Дарожскаму інспектару т. Львовічу з занясеннем у працоўны спіс і перавесці інспектуру у 4-ю катагорыю.

§ 4.

Абвясціць вымову з занясеннем у працоўны спіс інспектару Касцюковіцкага раёна тав. Лугаўцову.

§ 5.

Папярэдзіць усіх раённых і участковых інспектароў, што нядбайныя адносіны да справы барацьбы з парушэннямі учотнай дысцыпліны будуць разглядвацца як прамое парушэнне выканання дырэктыў партыі і ураду і за гэта яны будуць прыцягвацца да самай суровай адказнасці уключна да перадачы справы у суд.

§ 6.

Прапанаваць учотнай інспекцыі пад адказнасць тав. Магідава правесці дадатковую праверку на працягу лістапада-снежаня м-цаў не менш 8 раёнаў для высвятлення становішча барацьбы з незаконнай справаздачнасцю і унядрэння учота і справаздачнасці у сельсоветах.

Начальнік Кіраўіцтва
Наргасучота БССР. *Владзімірскі.*

---

# Загад № 449

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР.

**ад 29 кастрычніка 1934 г.**

1. За кастрычнік месяц значная частка райінспектур Наргасучота замест прыняцця мер да палепшання учотна-статыстычных работ, рэзка знізілі якасць работы, у выніку чаго 45% райінспектур па работам кастрычніка месяца знаходзяцца у 4-й катэгорыі, у прыватнасці Горацкая інспектура—т. Аніхоўскі мае прарывы па: фондам зарплаты, бюджэтам калгаснікаў, натуральнаму руху насельніцтва, учоту

працы у сельгас., будаўніцтве і прамысловасці; Лагойская інспектура—т. Абражэвіч сарваны усе работы і не укамплектаваны участковыя інспектуры і Полацкая інспектура—т. Мізараў—сарваны работы па квартальнаму учоту жывёлы, учот працы у сельгас, будаўніцтве і прамысловасці, не укамплектаваны участковыя інспектары.

2. За дрэнную работу Горацкай інспектуры знізіць зарплату інспектару т. Аніхоўскаму на 50 руб. у месяц.

3. Выклікаць для даклада начальніку Кіраўніцтва—Лагойскага інспектара т. Абражэвіча на 9/XI і Полацкага інспектара т. Мізарава і Крычаўскага інспектара т. Лукашука на 25/XI.

4. Папярэдзіць усіх інспектароў Наргасучота, што яны павінны безадкладна прыняць меры для знішчэння прарываў па работам сваіх інспектур.

Нам. Начальніка Кір-ва Наргасучота БССР *Кацнельсон.*

---

## Тэлеграма.

ЕЛЬСК

Загадчыку Райза

Копія Пракурору

Вамі парушан закон Саюзнага Ураду аб вядзенні учота калектывізацыі зпт замест квартальнай вы абавязалі сельсавет весці пятнадцацідзённую справаздачнасць тчк прапаную безадкладна незаконна уведзеную справаздачнасць адмяніць незалежна рашэння мясцовых органаў зпт адначасова даць пісьменнае тлумачэнне аб парушэнні тчк пракурора прашу праверыць выкананне

Наркамзем *Бенэк*

---

## У падрыхтоўку да VII з'езда саветаў.

Абвешчан 2-х месячны конкурс на лепшы сектар Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота з 1-га лістапада па 31 снежня 1934 г.

УМОВЫ КОНКУРСА:

1. Поўнае выкананне гадавога плана работ па сектару, як па вызначанаму плану, так і па паасобным даручэнням.

2. Унядрэнне планавасці ў рабоце усяго сектара і кожнага супрацоўніка паасобку.

3. Прывядзенне усяго архіўнага матэрыяла свайго сектара ў належны парадак.

4. Ажыццяўленне практычнага шэфства над 2-мя больш адсталымі райінспектурамі.

5. 100% удзел супрацоўнікаў сектара на курсах тэхучобы, без воднага пропуска заняткаў.

6. Забеспячэнне 100% удзела супрацоўнікаў і іх утрыманцаў у перавыбарах Горсовета.

7. Выпуск не менш 3-х сектарыяльных насценгазет.

8. Поўнае забеспячэнне прафгрупай сектара ўсіх мерапрыемстваў МК.

9. Ніводнага спазнення на работу.

10. Дабіцца не менш 50% ударнікаў па сектару.

11. Асвятленне у агульнай насценгазеце кожныя 15 дзён ход конкурса па сектару.

ПРМЭІІ: 1-я прэмія—600 руб.
" 2-я " —400 "

Грашовыя прэміі выдаюцца сектару, а парторгам, профоргам і начальнікам сектароў размяркоўваюцца сярод лепшых ударнікаў.

Сектару, атрымаўшэму 1-у прэмію, пераходзіць пераходны сцяг Кіраўніцтва і прысвайваецца назва лепшага сектара імя VII з'езда Советаў.

ЖЮРЫ вызначана ў складзе: т. т. *Шындлера, Волпава, Кацнельсона.*

На вытворчых нарадах сектароў КНГУ абмеркавана пытанне аб уключэнні у конкурс імя VII з'езда Советаў.

Ніжэйпаказаныя сектары уключыліся у конкурс і узялі шэфства над інспектурамі:

1. Промсектар узяў шэфства над Крупскай і Пухавіцкай інспектурамі.

2. Сектар совецкага гандлю—над Смалявіцкай інспектурай.

3. Сектар будаўніцтва—над Менскай і Лагойскай інспектурай.

4. Сектар сельскай гаспадаркі—над Горацкай і Чавускай інспектурамі.

5. Учотная інспекцыя—над Дзяржынскай і Жлобінскай інспектурамі.

6. Сектар культуры і быта—над Крычаўскай інспектурай.

7. Сектар учота працы—над Клімавіцкай і Рагачоўскай інспектурамі.

Паказаным інспектурам патрэбна зараз-жа звязацца з сектарамі, узяўшымі над імі шэфства і паказаць якая канкрэтная дапамога ім патрэбна для ліквідацыі прарываў з тым, каб выйсці у першую катэгорыю, і аб правадзімай сектарамі у іх работе асвятліць у інфармацыйным бюлетні.

*Учотная Інспекцыя.*

---

# II. Работа КНГУ і яго сыстэмы.

## Рашуча змагацца з нарушыцелямі учотнай дысцыпліны.

Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 27 лістапада 1933 г. абавязвае органы Наргасучота няўхільна прыцягваць да крымінальнай адказнасці вінаватых у парушэнні учотнай дысцыпліны, як за прадстаўленне умысна скажоных учотных звестак і справаздачных дадзеных, а таксама за злоснае парушэнне устаноўленых форм і тэрмінаў прадстаўлення учотна-справаздачных матар'ялаў.

Як-жа нашы інспэктуры змагаюцца за выкананне гэтай важнейшай учотнай справы?

Праведзенай праверкай работнікамі КНГУ у некатарых раёнах (Касцюковічы, Асіпавічі, Старыя-Дарогі, Бабруйск), высветлена, што шмат раёных арганізацый, у прыватнасці райАНА, РайЗА, і РайФА атрымліваюць ад сваіх наркаматаў незацверджаныя формы справаздачнасці і безумоўна самі спускаюць такія -жа справаздачныя формы у сельскія саветы, а інспэктура Наргасучота бяздзейнічае.

У Белынкавіцкім сельсавеце Касцюковіцкага раёна первічны учот не заведзен, а тыя кнігі, якія як-небудзь заведзены, у такім становішчы, што нельга іх лічыць первічным учотам, а т. Лугаўцоў супакоіўся на тым, што у астатніх сельсаветах добра пастаўлена.

Стара-Дарожскі інспэктар т. Львовіч не толькі не вядзе барацьбу з нарушыцелямі учотнай дысцыпліны, але сам патрабаваў ад сельсаветаў звесткі аб нацыянальным складзе насельніцтва.

Што гаварыць аб такіх інспэктурах як напр. Чэрвенская (інспэктар т. Бабіцкі) і Бялыніцкая (т. Велігураў), якія на наша запытанне аб паведамленні якія нарушэнні учотнай дыстыпліны былі выяўлены у 1934 г. адказваюць: "ніякіх парушэнняў учотнай дысцыпліны па нашаму раёну не маецца", а другая частка інспэктур зусім на гэтае запытанне не адказвае, лічучы, што па такой справе можна зусім не адказваць.

Друкуемы у гэтым нумары бюлетэня загад Начальніка-Кіраўніцтва т. Владзімірскага аб спагнанні накладзеным на т. т. Львовіча і Лугаўцова, павінен з'явіцца прадасцярогай для усіх раённых і участковых інспэктароў наргасучота аб неабходнасці больш рашучай барацьбы з нарушыцелямі учотнай дысцыпліны.

Выяўленне незаконнай справаздачнасці і асоб, умысла скажаючых справаздачныя данныя, павінна з'яўляцца штодзеннай сыстэматычнай упартай работай кожнага работніка сыстэмы наргасучота з тым, каб кожную справу давесці да канца.

Рашэнні партыі і урада павінны быць выкананы.

*Магідаў.*

---

## Аб паказчыках выканання плана па прамысловасці раёна.

Райінспектура Наргасучота толькі тады завае аўтары тэт у сістэме раённых арганізацый, калі яна будзе сістэматычна з'біраць матэрыялы па выкананню н/г плана раёна і прадстаўляць гэтыя матэрыялы для карыстання раённым арганізацыям. Спасылкі на тое, што гэта работа не прадугледжана гадавым планам-есць нікуды нягодныя спасылкі. Побач з іншымі работамі,—работа па нагляданню за ходам выканання народна-гаспадарчага плана раёна павінна займаць у райінспектуры адно з першых мейсц.

У гэтым артыкуле мы каснемся пытання адносна сістэмы паказчыкаў па прамысловасці, якія павінны служыць падставай пры рабоце па нагляданню за выкананнем плана.

Аснаўныя паказчыкі па нагляданню за ходам выканання плана ў раёне будуць наступныя:

1. Наркамацкая прамысловасць на тэрыторыі раёна (калі маюцца наркамацкія прадпрыемствы).
2. Прамысловасць, якая непасрэдна падпарадкавана РВК.
3. Каапэрацыйная прамысловасць.
4. Лесанарыхтоўкі і дабыча торфа.
5. Праца электрастанцый.

Вось аснаўныя паказчыкі, якія павінны адбіць работу прамысловасці у раёне.

Неабходна адзначыць, што часта райінспектура спасылаецца на тое, што прадпрыемствы надраённага саюзнага значэння не прадстаўляюць неабходных матэрыялаў па выкананню плана. Але гэтыя спасылкі не маюць пад сабой грунта: па-першае, звесткі гэтыя можная атрымаць з зацверджанай картачкі тэрміновых данясенняў па вытворчасці і

працы", а па-другое, калі райінспектар па сур'ёзнаму паставіць справу нагляданне за ходам выканання плана, то прадпрыемствы будуць-заўсёды прадстаўляць неабходныя матэрыялы. Асноўнае-ж тое, каб раённыя арганізацыі (РВК Райком) цанілі гэту работу райінспектуры і лічылі яе карыснай. Што датычыцца іншых пакзчыкаў, то усе неабходныя звесткі есць і павінны быць у райінспектуры.

Учот выканання народна-гаспадарчага плана па наркамацкай прамысловасці неабходна весці у наступным разрэзе

| Прадпрыемствы і падпарадкаванне. | Валавая прадукцыя (у цэн. 26/27. г.) | | | Сярэдня-спісач. лік рабочых. | | | Выработка на 1-го р боч. (у руб.) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | План | Факт. вык. | % вык. плана | План | Факт. вык. | % вык. плана | План | Факт. вык. | % вык. плана |
| А. Саюзн. падпарадкаванне | | | | | | | | | |
| у т. л.: | | | | | | | | | |
| Па прадпрыемствам: | | | | | | | | | |
| 1. | | | | | | | | | |
| 2. | | | | | | | | | |
| і г. д. | | | | | | | | | |
| Б. Рэспубл. падпарадкаван. | | | | | | | | | |
| у т. л.: | | | | | | | | | |
| Па прадпрыемствам: | | | | | | | | | |
| 1. | | | | | | | | | |
| 2. | | | | | | | | | |
| і г. д. | | | | | | | | | |

Такім чынам улік выканання н/г плана па валавай прадукцыі, па рабочым і па выпрацоўцы на аднаго рабочага патрэбна весці кожныя м-ц і даваць нарастаючы ітог ад пачатку года за ўсе м-цы. Пры гэтым бязумоўна патрэбна ведаць, што калі па прадукцыі нарастаючы ітог павінен атрымлівацца шляхам сумавання кожнага адчотнага м-ца да ўжо атрыманга ітога, то сярэдня-месячная колькасць рабочых павінна атрымлівацца шляхам дзялення абсалютнай колькасці рабочых, улічаных на адпаведныя даты, на лік гэтых дат. Для атрымання выработкі на аднаго рабочага неабходна прадукцыю (у руб.) падзяліць на колькасць рабочых за гэты перыяд. Пры чым заўсёды неабходна сачыць за тым каб ыбў выдзелен сапаставімы круг: каб не атрымалася так, што прадукцыя узята па аднаму колу прадпрыемства, а рабочыя па другому. Хаця кожнае асобнае

прадпрыемства павінна дасылаць звесткі у інспектуру у прапрацованым выглядзе, але-ж райінспектар, заўсёды папавінен праверыць гэтыя звесткі.

Для большай нагляднасці карысна рабіць вылічэнне валовай прадукцыі у наступным выглядзе:

| Прадпрыемствы і падпарадкаваннасць | План (адпавед. перыяда) | Факт. выканан. (за адпавед. перыяд) | Перавыкананне (+) недавыкананне (—) | % выканан плана. |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Гэта форма карысна тым, што ў ей фіксуецца не толькі % выканання плана, алеж і абсалютныя размеры перавыканання альбо недавыканання плана па асобным прадпрыемствам.

Шот датычыцца прамысловасці, падпарадкаваннай РВК, то акрамя паказаных вышэй паказчыкаў (па наркамацкай прамысловасці неабходна дабавіць яшчэ і паказчыкі па выдаткаванню фондаў зарплаты у разрэзе: план—за адпаведны перыяд, фактычнае выкананне і % выканання. Пры гэтым дадзеныя па прамысловасці, падпарадкаванай РВК, неабходна даваць як у разрэзе галін так і па прадпрыествам.

Партыя і урад у апошніх пастановах асабліва заваст- рылі увагу мясцовых органаў на пытаннях працы кааперацыйнай і саматужнай прамысловасці. Адсюль праверку выканання работы кааперацыйна-саматужнай прамысловасці райінспектура павінна паставіць на належную вышыню. Дадзеныя па кааперацыйна-саматужнай прамысловасці неабходна сістэматызаваць па сістэмам, па галінам і па больш буйным арцелям. Неабходна ўлічыць такія сістэмы, як:

1. Белпрамсовет.
2. Белкалес-прамсовет.
3. Кааперацыя інвалідаў.

Улік можна весці па наступнаи форме:

| Сістэмы, галіны і галоўныя арцелі | Валавая прадукцыя (у цэн. 1932 г. | | | Лік работнікаў на канец справаздачнага перыяда | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | План | Фактыч. выкан. | % вык. | План | Выкананне | % выканання. |
| | | | | | | |

Неабходна адзначыць, што учот выканання плана па кааперацыйнай прамысловасці значна спазняецца і таму калі немагчыма наладзіць атрыманные звесткі па кааперацыйнай прамысловасці к 10-12 числу услед за справаздачным м-цам, то неабходна абавязкова наладзіць улік работы гэтай прамысловасці праз м-ц, услед за справаздачным м-цам. Учот работы прамысловай кааперацыі таксама неабходна весці па месяцам і нарастаючым ітогам.

Што датычыцца пытанняў лесанарыхтовак і дабычы торфа, то улік неабходна наладзіць як па над раённым загатавіцелям (Леспрамгасы НКЛеса, Лестранхозы НКШЗ, прадпрыемствы Саюз-торфа і інш.), так і па рэспубліканскім і мясцовым арганізацыям (торфадабываючыя арцелі). Улік неабходна весці у натуральным выразе.

Пры учоце работы электростанцый неабходна мець на ўвазе катэгорыі электростанцый, а менавіта: электростанцыі раённага значэння, фабрычна-завадскія, камунальная і іншыя. Учот можна весці на наступнай схэме:

| Катэгорыя электрастанцый. | Устаноўленая магутнасць (у квт.) | Выпрацавана электраэнэргіі (за адпаведны перыяд). | | |
|---|---|---|---|---|
| | | План | Фаткычн. выканап. | % выканання. |
| | | | | |

Мы тут не закранулі такіх якасных паказчыкаў, як зніжэнне сабекошта, брак, бой і г. д. на прадпрыемствах, але гэта бязумоўна не гаворыць аб тым, што гэтымі пытаннямі не трэба займацца. Трэба таксама паставіць належным чынам і улік гэтых паказчыкаў. Агульнае становішча такое, што улік гэтых паказчыкаў на прадпрыемствах значна спазняецца. Адсюль неабходна дабіцца абавязковага атрымання гэтых паказчыкаў праз месяц услед за справаздачным месяцам.

*Пятрушэня.*

---

## Аб перапісу жывёлы.

СНК СССР сваей пастановай ад 3/VIII-34 г. абавязаў органы Наргасучота правесці перапіс жывёлы па становішчу на 1/1-35 г.

Перапіс праводзіцца ў мэтах забяспечэння дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі точнымі даннымі аб

агульнай колькасці жывёлы і аб размеркаванні яе па групах рознага вытворчага прызначэння; аснаўнымі дадзенымі у межах раёнаў, рэспублік, краёў, абласцей і па Саюзу; аб размеркаванні жывёлы па сацыяльных сэктарах, па катэгорыях і групах прадпрыемств і гаспадарак; аб аснаўных відах жывёлы і аб яе пароднасці; аснаўнымі дадзенымі аб прадукцыйнай якасці жывёлы і індывідуальнай характэрыстыкай выдатнай па прадукцыйнасці жывёлы; дадзенымі аб арганізацыйна-гаспадарчым становішчы жывёлагадоўчых саўгасаў калгасных таварных ферм і буйных гаспадарак ОРС аў.

Перапісу падлягаюць усе гаспадаркі і асобы, маючыя жывёлу, і жывёла, якая у час перапісу будзе у дарозе, за выключэннем коняй, належачых вайсковым часткам і установам РСЧА, войскам і установам пагранічнай ахраны; канвойнай стражы і органам Міліцыі. Жывёла-жа належачая дапаможным с-г. прадпрыемствам улічавецца ў асобым парадку праз КНГУ БССР.

Выходзячы з гэтай асноўнай устаноўкі Усесаюзная Канференцыя, якая адбывалася з 11/X да 16/X апрацавала аргплан, праграму і інструкцыі, якія па атрыманні ад ЦУНХУ будуць надрукаваны ў асобным бюлюцені. Разам з гэтым будуць намечаны перапісныя участкі па кожнаму раёну і устаноўлена структура апарата перапісу.

Важнасць гэтай работы даказваць нікому не патрэбна. Дастаткова толькі успомніць, што аб перапісу жывёлы на 1/I-35 г. маецца пастанова ЦК ВКП(б).

Поспех перапісу залежыць толькі ад таго, як тая ці іншая інспектура падрыхтуецца да гэтай важнейшай работы.

Аснаўное, што патрэбна зрабіць для забяспечання перапісу гэта:

1. Прасачыць за ходам апрадзялення пароднасці жывёлы.

2. Скласці па кожнаму раёну і ў яго межах па кожнаму с/с дакладны спіс паселішч з пказаннем ліку гаспадарак па кожнаму населеннаму пункту.

3. Складанне схематычнай карты раёнаў з нанясеннем усіх населенных пунктаў з выдзяленнем ліку гаспадарак ў іх і калгасаў, граніц с/с з вызначэннем тэрыторыі жывёлагадоўчых саўгасаў, паласы адчуждзення і інш.

4. Выходзячы з густаты насельніцтва, адлегласці і удобств сувязі тэрыторыя кожнага раёну размяжоўваецца на перапісныя участкі.

5. Па схематычным планам тэрыторыя кожнага горада размяжоўваецца таксама на перапісныя участкі у сярэднім па 1000 домаўладанняў на участак.

6. Сабраць і праверыць наступныя кантрольныя матар'ялы:

а) сельсавецкія ітогі учота жывёлы на 1/I-34 г.

б) сельсавецкія ітогі падатковага учота на чэрвень 1934 г.

в) ітогі учота прыватна-ўласніцкай жывёлы у гарадах на ліпень 1934 г.

г) дадзеныя апэрацыйнай справаздачнасці па кожнай калгаснай таварнай ферме на 1/XII-34 г.

д) данные апэрацыйнай справаздачнасці па кожнаму трэсціраванаму саўгасу на 1/XII-34 г.

е) данные аб ліку усяліўшыхся і выселіўшыхся гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў.

ж) данные аб здачы жывёлы у парадку мясапаставак.

Вось частковы пералік мерапрыемств, забяспечваючых якасць перапісу, якія можна і неабходна зараз-жа рыхтаваць. Маецца яшчэ шэраг работ падрыхтоўчага парадку, якія да атрымання указанняў ЦНХУ распачынаць не мэтазгодна. Сюды адносяцца такія работы, як складанне па-асобнай форме спісаў жывёлагадоўчых саўгасаў, ОРС'аў, каапгасаў і калгасных товарных ферм і шэраг іншых работ.

Частку работ Бюро ужо паставіла і ужо мае вынікі на-раду з дадатнымі і такія, якія паказваюць, што маюцца яшчэ інспектуры, якія думаюць, што можна с'піхнуць работу не зрабіўшы яе так, як гэта патрабавалась па заданню: да такіх інспектур ужэ можна аднесці Асвейскую і Шклоўскую. Гэтыя інспектуры даслалі такія спісы населенных пунктаў, якімі карыстацца не могуць ні інспектуры ні Бюро. Шклоўская інспектура звярнула спіс у тым жа выглядзе, у якім спіс ей быў выслан. Праўда супроць некатарых паселішч была адзнака „выяўлена“ але, што значыць „выяўлена“ так і застаецца сакрэтам Шклоўскай інспектуры.

Можна смела сказаць, што частка інспектур ніяк няхоча зразумець, што спіс населенных пунктаў з паказаннем ліку гаспадарак па кожнаму паселішчу патрэбен у першую чаргу самім інспектурам. Без такога спіса няма чаго і думаць аб правядзенні перапісу.

Цверда можам сказаць, што здаць матар'ял перапісу з дэфэктамі ні аднэй інпектуры не удасцца. Кожны інспектар павінен будзе прывесці усе матар'ялы у КНГУ асабіста. Калі акажацца, што у матар'яле будуць памылкі ці другога рода недахопы, то ён павінен будзе звярнуцца (ужо за свой кошт) у раен і там выправіць недахопы. Матар'ял будзе прыняты толькі ў тым выпадку, калі ён акажацца абсалютна точным. Акрамя гэтага кожны інспектар

павінен будзе даказаць на падставе іншых матар'ялаў правільнасць вынікаў перапісу.

Перапіс жывёлы павінен быць праведзен узорна.

*Кубан.*

---

**Ход падрыхтоўкі да перапісу жывёлы.**

З паведамлення некатарых інспектур відаць, што разгортванне работ па выяўленню пароднай жывёлы праходзіць вельмі марудна. Нашы жа інспектуры, як правіла, з'яўляюцца ў ролі староннiх наглядальнікаў.

Толькі Касцюковіцкая Інспектура паведаміла, што яна намерана далажыць Прэзыдыуму РВК аб становішчы гэтай працы. Прыходзіцца разам з гэтым адзначыць і такое з'явішча, што значная колькасць інспектур не пацікавілась такой „дробязью“ ці маюцца ў Райза інструкцыі і бланкі, другімі славамі-ці вядома Райза, што патрэбна рабіць. Трэба сказаць, што як раз гэтага на той час і не было, но гэтым нашы інспектуры і не пацікавіліся, акрамя Слуцкай, Гарадокскай, Суражскай Тут будзе ня лішнім паракамандаваць кой каму такое правіла; калі хочаш што-небудзь праверыць, то неабходна хоць у агульных рысах ведаць гэтую справу. Но як бы там ні было але гэтая частка інспектур хоць пацікавілася справамі, якія будуць пры перапісу мець первенствуючае значэнне, а астатнія „вялікія маўчальнікі відавочна лічаць, што гэтая справа іх ня тычыцца.

Аб складанні раённай карты можна сказаць наступнае: тыя інспектуры, якія у гэтым пытанні праявілі некаторую настойлівасць і гібкасць, яны карты будуць мець.

Мы закупілі 3 х верстных карт амаль на усе раёны, якія і разсылаем. Інспектурам прыдзецца дагаварыцца з Райземамі каб гэтыя карты выправіць і нанесці граніцы раёна і сельсаветаў, а лік гаспадарак па кожнаму паселішчу змогуць нанесці самі інспектуры на падставе дадзеных спіса населеных пунктаў.

Чакаем для наступнага бюлетэня інфармацыю па наступных пытаннях.

1. Ход працы па выяўленню пароднасці жывёлы, яе недахопы і мерапрыемствы для іх знішчэння

2. Якія меліся перашкоды да складання спіса населенных пунктаў і як інспектура іх ліквідавала.

3. Ход складання раённай карты.

4. Устанаўленне перапісных участкаў (наметка будзе на-днях разаслана).

*Кубан.*

## Падрыхтоўка ў раёнах да перапісу жывёлы.

(па матар'ялам Бюро перапісу жывёлы КНГУ БССР).

### I. Апрадзяленне пароднасці жывёлы у калгасна-сялянскім сектары

Па паведамленню інспектур наргасучота справа па падрыхтоўцы да апрадзялення пароднасці жывёлы у калгасна-сялянскім сектары абставіць так:

а) **Раёны, дзе праца падрыхтоўкі больш-менш разгорнута:**

1. **Барысаўскі**—Па раёну. працуе 5 зоотэхнікаў—выяўляюць пароднасць жывёлы

2. **Чашніцкі**—Боніціроўка (апрадзяленне пароднасці) у калгасах праводзіцца і матар'ял паступае у Райзо,

3. **Слуцкі**—У раёне маецца з зоотэхніка з 8 паложаных па штату. Усе яны знаходзяцца ў раёне, праводзяць падрыхтоўчую працу. З НКЗемляробства яшчэ не дасланы бланкі, што не дае магчымасці аформіць гэтую працу (12/Х). Як толькі атрымаюцца бланкі, будзе прыступленна да непасрэднага выканання працы.

4. **Быхаўскі** — Сектарам жывёлагадоўлі Райзо з 10/Х распачата праца па ўчоту пароднасці жывёлы у калгасах, калгаснікаў і аднаасобнікаў. Намечана работу скончыць у канцы месяца.

5. **Талочынскі**.—Падрыхтоўчая праца да апрадзялення пароднасці жывёлы Райзо у незначнай частцы праведзяна. Па калгасах выяўленая жывёла яшчэ канчаткова камісіяй не аформляна. Ніякай працы па апрадзяленню пароднасці жывёлы у гаспадарках калгаснікаў і аднаасобнікаў яшчэ не праведзена, але мяркуецца гэту працу скончыць 1/1-1935 г.

6. **Дубровенскі** — Па справе правядзення апрадзялення парод стада Земаддзелам атрыманы 16/Х адпаведныя карткі для гэтай мэты і ўжо 2 чалавека з Райзо выехалі на работу у сельсоветы.

7. **Любанскі** — Па ўстанаўленню пароднасці жывёлы у калгасах працуе камісія спецыялістых, якая шляхам выездаў устанаўлівае пароднасць жывёлы і заносіць у племянную кнігу.

8. **Ушацкі** — Райзо зараз праводзіць работу па апрадзяленню пароднасці для занясення у дзяржаўную племянную кнігу і ужо выяўлена 87 свіней, 48 галоў буйнай рагатай жывёлы, 28 авечак. Праводзіцца падрыхтоўка па выяўленню для занясення у райплемкнігу.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу Райзо не спусціла бланкі пашпарта. Адсутнічаюць прылады для кляймення.

9. **Гарадоцкі** — Да прадзялення пароднасці Райзо прыступіў і да 15 снежня работа будзе скончана. Бланкі і кнігі для правядзення гэтай працы атрыманы.

**б) Раёны, дзе ніякай працы не праводзіцца.**

10. **Бабруйскі** — Райзо толькі пачаў складаць папярэднія спісы племянной жывёлы. Гэтая праца будзе скончана да 1/XII-1934 г.

11. **Копыльскі** — Боніціроўкі стада Райзо яшчэ не распачаў.

12. **Суражскі** — Праца па апрадзяленню пароднасці не распачата, бланкі для гэтай мэты не атрыманы (9/X).

13. **Мозырскі** — Інспектурай праверан ход падрыхтоўкі да апрадзялення у калгасах „Першае Мая“ і „Калініна“; аказалась, што ніякай падрыхтоўчай працы у гэтых калгасах, калгаснікаў і аднаасобнікаў не праводзіцца.

14. **Касцюковіцкі** — Па лініі НКЗемляробства спушчана распараджэнне па апрадзяленню пароднасці жывёлы, але гэта работа ў Райзо фактычна не распачата, яшчэ не складзен каляндарны план работы і абмяжоўваецца толькі дырэктывай па с/с і калгасах. Райзо мае толькі 3 зоотэхніка. У бліжайшы час аб гэтай рабоце будзе далажана Прэзыдыуму РВК.

15. **Кармянскі** — Праца па апрадзяленню пароднасці у калгасах, калгаснікаў і аднаасобнікаў распачнецца з 10/X і скончыцца да 1 лістапада 1934 г.

16. **Жлобінскі** — Па апрадзяленню пароднасці нічога практычна не зроблена.

Астатніх інспектур гэтае пытанне, відавочна, не цікавіць.

## II. Пастаноўка работы у трэстах па боніціроўцы стада саўгасаў.

### Віцебская інспектура.

Формуляры для боніціроўкі стада Віцебскі молпрамтрэст атрымаў 5/X, а інструкцыі да іх - 10/X.

У соўгасы трэст спусціў формуляры 5/X, уручыў іх на адбыўшайся гэтымі днямі нарадзе непасрэдна адказным па боніціроўцы, а для трох соўгасаў формуляры дасланы поштай.

Тэрмін здачы матар,яла соўгасамі у трэст устаноўлен 25/X, а трэст павінен скончыць работу да 1/XI. Урадам-жа устаноўлен тэрмін сканчэння работы 15/X, трэст-жа не прытрымліваецца тэрміну гэтага з прычыны поздняга атрымання формулянраў і інструкцый.

Плана работ, як па трэсту, так і па соўгасах няма. Адказнымі па трэсту вылучана тройка (Ермаченка, Крылоў, Бараноўскі), а па соўгасах у большасці зоотэхнікі, а па некаторым загадчыкі фермай.

Кадрамі амаль усе соўгасы забяспечаны. Галоўнае, што у некаторых соўгасах адкаѕныя з работай не справяцца і трэст лічыць патрэбным у больш адстаючыя соўгасы паслаць дапамогу з іншых соўгасаў.

Уражанне такое, што работа зацягнецца, бо няма належнай інтэнсіўнай увагі трэста. Да гэтага часу ні адзін з трох адказных па трэсту не выехаў у соўгасы, не размяркавалі соўгасаў паміж сабой, не мобілізавалі спецыялістых трэста (акрамя тройкі) на дапамогу слабым соўгасам. Толькі зараз з'біраюцца выехаць у соўгасы для правядзення куставой інструкцыйнай работы.

Хоць адказны па соўгасу вядомы трэсту, а работы з ім ніякай. Сама тройка уплатную не узялась за работу, а займаецца іншымі работамі.

### Магілеўская інспектура.

Па загаду Свінаводтрэста ад 5.X-34 г. за № 250 дадзена распараджэнне ўсім дырэктарам соўгасаў закончыць боніціроўку стада 15/X 34 г. У загадзе адказнымі за гэту работу у соўгасах вызначаны дырэктары соўгасаў, а у трэсце Начальнік Зоотэхнічнага Аддзела трэста т. Прусакоў.

Канчатковы тэрмін апрацоўкі матар'ялаў па ўсяму трэсту вызначан 25.X-34 г. Інструкцыя па рагатай жывёле спушчана усім соўгасам 5-га кастрычніка, а інструкцыя па боніціроўцы свіней спушчана ўсім соўгасам 27.IX.1934 г.

Не глёдзячы на канчатковы тэрмін 15/X-34 г., які па сутнасці ўжо прайшоў, Свінаводтрэст мае матар'ял толькі па аднаму соўгасу па свінному стаду (соўгас "Ялоўка") і матар'ял па рагатай жывёле таксама па аднаму соўгасу („чырвоны маяк"), з маючыхся у аб'яднанні трэста 39 соўгасаў, чаму трэба лічыць, што ўстаноўлены тэрмін поўнасцю праваленй.

Свінаводтрэст календарныя планыработы па баніціроўцы соўгасам не спусціў; апошнія—па думцы працаўнікоў трэста павінны складаць самі соўгасы у сябе. Трэст жа рашыў сам сваімі сіламі правесці гэту работу у 8 соўгасах, дзе больш слабыя зоотэхнічныя працаўнікі у соўгасах, але і сам трэст на сёняшні дзень ні ў адным соўгасе гэту работу не праввеў і на гэту работу трэст на сёняшні дзен ні аднаго чалавека на мейсцы не паслаў.

У 18-ці соўгасах Свінаводтрэста маюцца зоотэхнікі з вышэйшай адукацыяй, а у 21-м соўгасе маюцца свінаводтэхні-

кі і жывёлаводы. Соўгасы, праўда, спецыялістамі больш-менш забяспечаны. Трэба толькі з боку трэста больш чоткае і аперацыйнае кіраўніцтва гэтай работай, тады работа была-б забяспечана у тэрмін.

### Аршанская інспектура.

Спушчаны дырэктывы і бланкі 28/VIII па 40 соўгасам. Тэрмін па соўгасам не дыфэрэнцыраваны, а наогул матар'ял павінен быць прадстаўлен да 10/X ад усіх соўгасаў. Календарны план такога зместу: да 1/X закончыць работу ў соўгасах па правядзенню боніціроўкі, да 5/X закончыць складанне справаздачнасці і к 10/X прадставіць матар'ял у трэст Адказным за гэту працу па трэсту вылучан ст. заатэхнік т. Марголін, па соўгасам адказвае заатэхнік. Для забяспячэння гэтай работы кадрамі, трэстам нічога незроблена. Матар'ял трэстам не правяраўся і ацэнка работы не вядома.

Па буйнай рагатай жывёле работа гэта зусім не праводзілася да гэтага часу.

### Гомельская інспектура.

Пры даследванні выяўлена наступнае: дырэктывы аб боніцыроўцы стада і бланкі спушчаны трэсту 28/IX-34 года, тэрміны па соўгасам для правядзення гэтай работы устаноўлены наступныя: Доўгалессе, Уваравічы, Перэвічы, Рудакова—10/X, Дарашэвічы, Петрыкаў, Дуброўна, Камарын і Лучыцы—11/X, Барысаўшчына, Судкова, Стрэлічава, Астрагляды і Пабеда Соцыялізма—13/X, Кіселёўка, Дзедлова, Ціхінічы, Добрынь і Каменіча—14/X, Рагінь, Молатава, Ліпавац, Зорка Захаду, Неглюбка і Лескі—15/X.

Адказным за правядзенне работы па трэсту вылучаны заатэхнік Галка, па соўгасах—заатэхнік соўгасаў для дапамогі праверкі працы. Заатэхнікі трэста накіроўваюцца ў соўгасы; Наркамсоўгасаў да гэтага часу не спушчаны інструкцыі па боніцыроўцы стада, па соўгасах разасланы інструкцыі складзеныя трэстам.

### Кармянская інспектура.

Боніцыроўка стада ў соўгасах зараз праводзіцца.

### Старобінская інспектура.

Інспектурай утворана праверка хода боніцыроўкі жывёлы ў соўгасах, пры чым, аказалась: соўгас „Капцэвічы“ правёў боніцыроўку на 60%, соўгас „Пагост“—на 40%, а соўгас „Ударнік“ яшчэ не пачынаў і як высветлілася не ведаў аб боніцыроўцы.

## Слуцкая інспектура.

Ход боніцыроўкі ў соўгасах правяраецца. Інфармацыя будзе выслана 15/Х.

## III. Складанне карты раёна.

1) **Прапойск**—Схематычная карта выкапіроўваецца начальнікам землеупарадкавацельнай партыі т. **Гатаўскім.** На карту наносяцца населенныя пункты з паказаннем ліку гаспадарак і насельніцтва.

2) **Быхаў**--План гораду затрэбаван праз Горсовет ад Інвэнтарызацыйнага бюро.

3) **Брагін**—Карта раёну заказана каморнікам і будзе выкапіравана ў тэрмін.

4) **Слуцк**—Карта раёна з усімі населеннымі пунктамі маецца у РЗА і інспектура пры патрэбнасці магчыма будзе ею карыстацца. План горада таксама маецца, якім пры патрэбнасці можна карыстацца.

5) **Барысаў**—Карта раёну і план горада маюцца, але для аплаты за выпрацоўку патрэбна 150 руб.

6) **Жлобін**—Карты раёну не маецца. Па лініі НКЗемляробства спушчана дырэктыва аб складанні карты раёна. Каморнікі ужо прыступілі да гэтай работы. Для атрымання копіі патрэбна для аплаты за работу 250 руб.

7) **Копыль**—Схематычная карта раёна маецца, для выкапіроўкі патрэбны грошы.

8) **Сураж**—Карту раёна магчыма складзі. На аплату каморнікам патрабуецца 400 руб. Работа можа быць выканана ў лістападзе.

9) **Талочын**—Карта раёна маецца. За капіроўку каморнікі просяць 200 руб.

10) **Мозыр**—Для складання карты раёна і плана горада патрэбна 150 руб.

11) **Касцюковічы**—Схематычныя карты с/с маюцца, што-жа датычыцца зверкі і нанясення дадатковых паселішч, калгасаў і інш., то такая работа врад-лі можа быць выканана каморнікамі Райза.

12) **Карма**—За складанне раённай карты Райзем запрасіў 150 руб.

13) **Дуброўна**— Каморнікі бяруцца зрабіць карту за 100 руб. з нанесеннем усіх населенных пунктаў, ліку калгасных і аднаасобных гаспадарак з адзнакай меж сельсоветаў і паласы адчужджэння.

14) **Бабруйск**—Да складання карты раёну і горада яшчэ не прыступлена, бо для гэтага неабходны сродкі, г. зн.

для раённай карты—300 руб; а для плана горада-200 руб. Без гетай сумы каморнікі працы не выканаюць.

**15) Любань**—Для аплаты каморнікаў за складанне карты патрэбна 150 руб.

**16) Ушачы**—За выкапіроўку карты каморнікі запрасілі 100 руб.

**17) Чашнікі**—Капіраваць карту не буду, так як на карце не усе паказаны населенные пункты. а новую карту скласці патрабуецца вельмі шмат часу і патрабуецца належны матар'ял (туш і калька).

**18) Дрыса**—Для складання карты раёна патрэбна 300 руб.

Астатнія райінспектуры, відавочна, лічаць, што ім карты не патрэбны.

### IV. Аб упарадкаванні дапаможных спісаў па Чэрвенскаму учоту жывёлы.

Прапойская, Барысаўская, Чашніцкая, Копыльская, Брагінская, Касцюковіцкая, Бабруйская і Ушацкая інспектуры паведамляюць, што дапаможныя спісы знаходзяцца ў поўным парадку.

**Смалявіцкая**—Дапаможных спісаў па Чэрвенскаму учоту жывёлы у інспектуры не маецца а скласці цяпер нема магчымасці.

**Талочынская**—Дапаможныя спісы у с/с не складаліся.

**Дубровенская**—Дапаможныя спісы у нас прыведзены у парадак, але ад аднаго с/сов-та спісы не атрыманы і дрэнна, што па чатырох с/советах не разбіты калгаснікі па населішчах.

---

## Аб штомесячным учоце колькасці персаналу і фандоў заработнай платы.

Да гэтага часу шэрах інспектур працягваюць прадстаўляць картку № 8 па учоту колькасці персаналу і фандоў зарплаты на кожны ад зел РВК паасобна. Між тым інспектурам ужо неаднаразова даваліся указанні, што на РВК (з яго аддзеламі) не ўключаюцца толькі наступныя аддзелы РВК (альбо горсоветы): нарасветы, аховы здароўя, соцзабяспекі, а таксама інпектура наргасучота.

Некаторыя інспектуры неправідлова адносяць да РВК: канвенц. бюро, камітэт нарыхтовак, райспажыўсаюз, райзаг, райлесгас, ветлячэбніцы, органы юстыцыі, банк, нарсувязь, арцелі і г. д; усе гэтыя арганізацыі падпарадкаваны наркамату альбо ведамству, ад якіх аррымліваюць зарплату і не павінны уключацца ў РВК.

Уключаюцца ў картку № 8, складаемую на РВК (альбо на горсовет) наступныя адзелы РВК:

1) агульны аддзел, 2) спецчастка, 3) планавы аддзел, 4) дарожны аддзел 5) замежны аддзел. 6) аддзел нарыхтовак (незернавых), 7) камгас, 8) фінансавы аддзел, 9) зямельны аддзел і іншыя аддзелы, супрацоўнікі якіх атрымоўваюць зарплату ад РВК.

Калі у раёне маецца горсовет і РВК—патрэбна картку № 8 складаць на РВК і паасобна на горсовет.

Пералік прадпрыемств і устаноў, на якія інспектура павінна штомесячна прадстаўляць картку № 8:

1) РВК 2) Горсовет 3) Райпрафсовет.

4) Рэдакцыя газеты 5) Друкарні

6) Нецэнзавае буд-ва дарожнае і камунальнае, падпарадкаванае адпаведным аддзелам РВК.

7) Нецэнзавыя прамысловыя прадпрыемствы, падпарадкаваныя РВК альбо яго аддзелам;

8) Пажарныя аховы.

9) Гасцініцы, 10) Лазні, 11) Пральні.

Трэба мець на у вазе, што на прадпрыемствы, падпарадкаваныя камунальнаму аддзелу РВК (лазні, гасцініцы, пажарныя аховы і г. д.) картку № 8 прадстаўляюць усе інспектуры, за выключэннем Бабруйскай, Барысаўскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мазырскай. Менскай, Аршанскай, Полацкай, і Рэчыцкай.

Па камунальным прадпрыемствам пералічаных 10 гарадоў звесткі прадстаўляюцца непасрэдна НККамун. гаспадаркі.

*А. Шмід.*

---

## Роля інспектуры каргасўчота ў налажванні учота культурнага будаўніцтва ў раёне.

У сваей пастанове ад 23/VI-34 г. СНК БССР адзначаў дрэнную пастаноўку учота ў Наркамасвеце і яго органах на мясцох і намеціў шэраг мерапрыемстваў па палепшанню гэтай справы. Пастановай гэтай уведзены штатныя адзінкі статыстыкаў пры аддзеле народнай асветы ў тых раёнах, дзе іх раней не было і такім чынам ва ўсіх раёнах БССР павінны быць спецыяльныя работнікі, якія займаюцца учотам культурнага будаўніцтва.

Не гледзячы на усе гэта, учот культурнага будаўніцтва у раёнах застаецца нездавальняючым. На сённяшні дзень Наркамасветы яшчэ не мае поўных данных аб школах усенавўча нават на канец 1933-34, не гаворачы ужо аб

данных на пачатак 1934-35 года, не мае данных аб летніх дзіцячых пляцоўках і іншых матэрыялаў, тэрмін прадстаўлення якіх даўно ужо прайшоў.

Чым тлумачыцца такое ганебнае становішча з учотам культурнага будаўніцтва?.

Бязумоўна, што у першую чаргу вінаваты у гэтым загадчыкі Райана Аднак і інспектуры Наргасучота, якія прызваны арганізаваць і наладзіць учот у раёне, таксама не могуць стаяць у баку і трэба з усей шчырасцю адзначыць, што інспектуры нашы зусім не цікавяцца учотам будаўніцтва у раёне.

Як ацаніць, напрыклад, такое становішча што у Магілеўскім Райана, дзе маецца сакратар які атрымлівае 100 р. учотам займаецца планавік Райплана па саўмяшчымасці, які працуе ад 6 да 8 гадзін вечара і атрымлівае 80 руб. Ці можа быць карысць ад саўмяшчальнасці і ці можна наладзіць учот такім чынам, т. Зумент?

Да гэтага трэба яшчэ дабавіць; што работнікі Магілеўскага Райана нават не ведаюць, што учотам павінны яны займацца і лічаць, што „лічбы ім павінна даваць інспектура Наргасучота“ Як ацаніць такое становішча, што у Барысаве, Смалевічах, Дзяржынску і у іншых раёнах статыстыкі Райана займаюцца усім чым хочаце, а толькі не свaей аснаўной работай-учотам.

Пастановаю СНК прапанована старшыням РВК заслухаць справаздачы Заг. Райана на прэзыдыуме РВК. Гэта павінна быць скарыстана інспектурамі Наргасучота, якім неабходна правесці да гэтага дэталёва абследванне становішча учота у Райана і моцна ударыць па усім недахопам і забяспечыць налажванне учота.

Пры абследванні асаблівую увагу неабходна звярнуць на паунату ахопу учотам школ усенавуча на пачатак 1934-1935 г. (ф. А-1), летніх дзіцячых пляцовак і школ для дарослых.

Гэтыя матэрыялы неабходны пры правядзенні кантрольна спісачнага учота, які пачынаецца у лістападзе м-цы і павінен быць праведзен лепей, чым ён прайшоў у мінулым годзе.

*Гольдберг.*

---

## Неуважлівыя адносіны да працы.

У жніўні месяцы сектарам культуры і быта па заданню ЦУНХУ быў пастаўлен перапіс фізіцэрапеўтычнага і рэнтгенаўскага абсталявання.

Тэрмін прадстаўлення раёнамі матар'яла у Кіраўніцтва

быў 28/VIII. З 30 раёнаў, у якіх былі выяўлены аб'екты перапісу, даслалі матар'ял у тэрмін 4 раёны (Віцебск, Гомель, Орша і Барысаў), а астатнія раёны даслалі матар'ял са спазненнем. Ганебна спазніліся з дасылкай матэр'яла раёны Менск і Рэчыца, якія закончылі гэту работу 10-15 кастрычніка.

Неабходна адзначыць, што Менская інспектура амаль зусім не удзеліла ўвагі перапісу, у выніку чаго атрымалася, што матар'ял паступіў з вялікім спазненнем і недобраякасны, амаль усе атрыманыя бланкі прыходзілася зварачваць па некалькі разоў у лекавую установу для выпраўлення. Матар'ял быў недобраякасны па цэламу шэрагу іншых раёнаў (Магілеў, Барысаў, Орша).

Добрасумленна і добраякасна правялі перапіс інспектуры Гомеля і Віцебска. Матар'ял быў атрыман у тэрмін і добраякасны. Пасля праверкі матар'аялу гэтых двух гарадоў ня было выяўлена ніводнага непаразумення. Інспектуры Гомеля і Віцебска могуць з'яўляцца прыкладнымі у правядзенні гэтай работы.

*Лозэ.*

---

# Якасць работы Райінспектур

на 1 лістапада 1934 г.

| №№ Катэгор. | Раён | Па якім работам маюцца прарывы |
|---|---|---|
| 1 | Бешанковічы | Зводка аб колькасці жывёлы у рабочых і служачых. |
| 1 | Чачэрск | Таксама |
| 2 | Брагін | Фонд зарплаты, перапіс бібліятэк. |
| 2 | Бягомль | Зводка аб колькасці жывёлы у рабочых і служачых і дасылка ф. № 6. |
| 2 | Віцебск | Зводка па жывёле у рабочых і служачых карткі па учоту працы у сел. гаспад. прадпрыемствах. |
| 2 | Ушачы | Зводка па жывёле раб. і служ., натуральны рух насельніцтва. |
| 2 | Гомель | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле рабоч. і служ., натуральны рух насельніцтва |
| 2 | Касцюковічы | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служач., учот працы у прамысловасці. |
| 2 | Копыль | Кварт. учот жывёлы зводка па жывёле раб. і служ. |
| 2 | Карма | Фонды зарплаты. перапіс бібліятэк. |
| 2 | Любань | Натур. рух насельн., перапіс бібліятэк. |
| 2 | Сіроціна | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ. |
| 2 | Тураў | Зводка па жывёле раб. і служ., натур рух насельніцтва. |
| 2 | Чэрвень | Фонды зарплаты. зводка па жывёле раб. і служ. учот працы у сел. гасп. прадпрыемств. |
| 3 | Асвея | Зводка па жывёле рабоч. і служ., натур. рух, насельн., перапіс бібліятэк. |
| 3 | Бабруйск | Фонды зарплаты, кварт, учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насел., учот працы у с\|г прадпр., перапіс бібліятэк. |
| 3 | Быхаў | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г прадпр. перапіс бібліятэк. |
| 3 | Бялынічы | Фонды зарплаты, кварт учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., перапіс бібліятэк. |
| 3 | Буда-Кашелёва | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы. зводка па жывёле раб. і служ., перапіс б-к. |
| 3 | Дрыса | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г прадпр. і прамысловасці. |
| 3 | Ельск | Фонды зарплат , зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., перапіс б-к. |

| №№ катэгор | Раён | Па якім работам маюцца прарывы. |
|---|---|---|
| 3 | Камарын | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у буд-ве і прамысл., перапіс б-к. |
| 3 | Лельчыцы | Кварт. уч т жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн. |
| 3 | Магілёў | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ. натур. рух насельн., учот працы у буд-ве, перапіс б-к. |
| 3 | Орша | Зводка па жывёле раб. і служ, натур. рух насельн., учот працы у с\|г прадпр. і прамысловасці. |
| 3 | Прапойск | Зводка па жывёле раб. і служ., натур рух насельн., учот працы у с\|г і прамысловасці. |
| 3 | Парычы | Зводка па жывёле раб. і служ., перапіс б-к. |
| 3 | Смалявічы | Зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г прадпр., перапіс б-к, |
| 3 | Слуцк | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г, буд-ве і прамыслов. |
| 3 | Талочын | Зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г прадпр. перапіс б к. |
| 3 | Хойнікі | Кварт, учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г прадпр. |
| 3 | Чыр. Слабада | Фонды зарплаты, зводка па жывёле, раб, і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г і буд-ве. |
| 3 | Чашнікі | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., учот працы у с\|г і буд-ве перапіс б-к. |
| 4 | Асіпавічы | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г і прамыслов. перапіс б-к, |
| 4 | Бярэзіна | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., учот працы у с\|г і прамысл., перапіс б-к |
| 4 | Ветка | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г, перапіс б-к. |
| 4 | Глуск | Фонды зарплаты, з одка па жывёле раб і служ., натур. рух насельн., учот працы у с\|г, і прамыслов, перапіс б-к. |
| 4 | Горкі | Фонды зарплаты, бюдж. калгасн., натур. рух насельн,, учот працы у с\|г, б д-ве і прамыслов, |
| 4 | Гарадок | Фонды зарплаты' кварт учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ, натур. рух насельн., учот працы у с\|г, перапіс б-к. |
| 4 | Дзяржынск | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., дасылка ф. № 6, бюдж калгасн., натур. рух насельн., перапіс б-к |
| 4 | Дуброўна | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур рух насельн., учот працы у с\|г, перапіс б-к. |

| №№ катэгор. | Раён | Па якім работам маюцца прарывы |
|---|---|---|
| 4 | Жыткавічы | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., учот працы у с/г буд-ве і прамыслов. |
| 4 | Жлобін | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с/г, буд-ве і прамыслов. |
| 4 | Заслаўль | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г. і прамысл., перапіс б-к. |
| 4 | Крупкі | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, перапіс б-к. |
| 4 | Клімавічы | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамыслов. перапіс б-к. |
| 3 | Клічаў | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ., дасылка ф. № 6, натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамысл., перапіс б-к- |
| 4 | Крычаў | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, буд-ве і прамысл. |
| 4 | Чырвонаполле | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ.. натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Лепель | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г. і прамыслов, перапіс б-к. |
| 4 | Лоеў | Зводка па жывёле раб. і служ., дасылка ф. № 6, натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамысловасці. |
| 4 | Лагойск | Фонды зарплаты, кварт. учот. жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур рух насельн., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Лёзна | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Менск | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., перапіс б-к. |
| 4 | Мозыр | Зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, перапіс б-к. |
| 4 | Мсціслаўль | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Нароўля | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, парапіс б-к. |
| 4 | Полацк | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб., і служ., учот працы у с-г, буд-ве і прамысл., перапіс б-к. |

| №№ катэгор. | Раён | Па якім работам маюцца прарывы |
|---|---|---|
| 4 | Пухавічы | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і слж., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Плешчаніцы | Фонды зарплаты, кварт учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., учот працы у с-г, перапіс б-к. |
| 4 | Петрыкаў | Зводка па жывёле раб. і служ, натур. рух насельн., учот працы у с-г. перапіс б-к. |
| 4 | Рагачоў | Дасылка ф. № 6, натур. рух насельн., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Расоны | Фонды зарплаты. кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Рэчыца | Зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Сураж | Зводка па жывёле раб. і служ., бюдж. калгасн., натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамыслов., перапіс б-к |
| 4 | Старыя Дарогі | Зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., перапіс б-к. |
| 4 | Старобін | Зводка па жывеле раб. і служ. натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Сенно | Фонды зарплаты кварт. учот жывёлы зводка па жывёле раб. і служ., дасылка ф. № 6, натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамысл., перапіс б-к. |
| 4 | Уваравічы | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов. |
| 4 | Узда | Кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., учот працы у с-г, перапіс б-к. |
| 4 | Церахоўка | Фонды зарплаты, кварт. учот жывёлы, зводка па жывёле раб, і служ., натур., рух насельн., учот працы у с-г, буд-ве і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Чэрыкаў | Фонды зарплаты, зводка па жывёле раб. і служ. натур. рух насельн., учот працы у с-г, і прамысл., перапіс б-к. |
| 4 | Чаусы | Кварт учот жывёлы, зводка па жывёле раб. і служ., натур. рух насельн., учот працы у с-г. і прамыслов., перапіс б-к. |
| 4 | Шклоў | Зводка па жывёле раб. і служ. учот працы у с-г. і прамыслов., перапіс б-к. |

# III. Участковыя інспектуры і іх работа.

КНГУ БССР
Учотная інспекцыя
29 кастрычніка 1934г.
№ 11

Усім раённым і участковым інспектарам народна-гаспадарчага учота.

У мэтах упарадкавання работы участковых інспектароў і недапушчэння загрузкі іх рознымі другараднымі заданнямі, Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР устанаўляе наступны план работ участковых інспектароў на лістапад-снежань м-цы 1934 года:

1. Праверка увядзення первічнага учота па новым формам ва ўсіх сельсаветох свайго участка (вядзенне кніг ф. № 1, 2-а, 2-б і 3 на 1934 г., адчыненне кніг ф. № 3 на 1935 год і адзнака ў іх выканання мясаздачы, нагляд за снабжэннем сельсоветаў кнігамі і формамі, інструктаж сельсоветаў і г. д.) з 1/XI да 1/XII.

2. Праверка увядзення у сельсоветах справаздачнасці па формам, зацверджаным ЦВК і СНК СССР. Выяўленне фактаў спуска у сельсоветы аддзеламі РВК, раённымі і іншымі арганізацыямі незацверджаных форм і прыцягненне вінаватых у гэтым да адказнасці праз райінспектуру; нагляд за своечасовай і правільнай дачай сельсоветамі справаздачных звестак, а таксама за сваечасовым снабжэннем сельсоветаў бланкамі справаздачнасці, інструктаж сельсоветаў і г. д. з 1/XI да 1/XII.

3. Правядзенне падрыхтоўчай работы да перапісу жывёлы (складанне спіса населеных пунктаў свайго участка з паказаннем колькасці гаспадарак-калгаснікаў і аднаасобнікаў у наасобку у кожным пункце, нагляд за упарадкаваннем кніг первічнага учота, падатковых картак і дапаможных спісаў у сельсоветах, правядзенне растлумачальнай работы, скарыстоўваючы для гэтага сходы сялян і г. д.) з 1/XI да 31/XII.

4. Праверка хода і пастаноўкі учота размяркавання ураджаю і прыбыткаў у калгасах на 1934 г. з 10/XI да 15/XII.

5. Праверка падрыхтоўкі да складання гадавых спра-

ваздач за 1934 год у калгасах, соўгасах і іншых нізавых прадпрыемствах—з 10/XII да 31/XII.

6. Правядзенне кантрольных работ па рэгістрацыі аб'ектаў будаўніцтва (выяўленне незарэгістрыраваных на працягу 1934 г. аб'ектаў і нагляд за рэгістрацыяй іх) з 10/XI да 1/XII.

7. Праверка запісаў актаў па ЗАГС'у у сельсоветах, нагляд за своечасовым і поўным прадстаўленнем сельсоветамі другіх экземпляраў запісаў актаў у райінспектуру з 1/XI да 1/XII.

Аб выніках кожнай праверкі участковы інспектар абавязкова павінен скласці акт, які накіроўвае у райінспектуру. Райінспектарам неабходна заслухоўваць перыядычна даклады участковых інспектароў аб выкананні імі вызначаных па плану работ, а таксама практыкаваць праверку работы участковых інспектароў на месцы у сельсоветах. Штомесячна райінспектар паведамляе у КНГУ БССР кароткую характарыстыку работы кожнага участковага інспектара.

Начальнік учотнай інспекцыі *Магідаў*

---

## Участковы інспектар павінен працаваць па плану.

Райінспектурай наргасучота Копыльскага раёна распрацаваны наступны план (памятка) працы участковага інспектора на час з 10 кастрычніка да 1 лістапада 1934 г.:

1. Да 1/XI—азнаёміцца з работнікамі с/советаў (соцыяльнае становішча, кваліфікацыя і г. д.).

2. Праверыць вядзенне первічнага учота ў с/советах у першую чаргу зварочваючы увагу на вядзенне кніг 1, 2-а, 2-б, і 3. Па выяўленным недахопам даваць тэрмін для выпраўлення—у залежнасці ад важнасці і магчымасці выпраўлення—да 5 дзён.

3. У гэтым жа паселішчы дзе с/с, праверыць да 1/XI-34 г. ведзенне рахункаводства ў калгасе.

4. На ўсе выяўленныя недахопы і злоўжывання складаць акт, які дасылаць у Райінспекцыю. У асобна важных выпадках неадкладна паведамляць па телефону

5. Па прыбыцці у с/совет званіць па телефону ў РНГУ для атрымання дадатковых заданняў.

6. Завесці у спецыяльным сшытку спіс для адзнак аб

работніках, звязанных з вучотам у с/советах, совгасах, калгасах і установах па наступнай форме:

| Прозвішча, імя і па бацьку (назва с-с) | Назва арганізац. | Адукацыя | | Стаж работы | Партыйнасць | Узрост | Зроблен. заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Агульная | Спецыяльная | | | | |
| | | | | | | | |

7. Завесці журнал работы (старонку) на кожны с/совет, совгас, калгас і ўстанову, у якім адзначыць прароблениую пры праверцы работу і аказанную дапамогу па настпннай форме:

| Дата | | Як я галіна ўчоту была праверана | Якія зролены заўвагі і каму даручана выпраўленне. | Тэрмін выкапання | Распіска кіраўніка абследв. установы. |
|---|---|---|---|---|---|
| Прыбыцця | Выбыцця | | | | |
| | | | | | |

8. На 20/X-34 г. ліквідаваць запазычанасць па ўсяму участку па наступным галінам учоту: а) Перапісь бібліатэк, б) квартальны учот жыаёлы, в) рэгістрацыя будаўніцтва, г) учот працы і зарплаты, (совгас і вінзавод), д) рух насельніцтва (па с/с).

9. Азнаёміцца з палаженнем і арганізаваць 2 ячэйкі ВОСУ (Тімкавічы і Прусы), падрыхтаваўшы глебу для арганізацыі ячеяк і інш. с/советах.

10. Прапрацаваць інструкцыю вядзення учота ў калгасах і першыя главы „азбукі статыстыкі"—Староўскага.

11. Кожны аўторак зыходзяцца ў цэнтры участку.

12. Кожнага 15 і 1 чысла з'яўляцца ў Інспектуру для абгаварэння працы на далейшы час.

13 Усю правадзімую учотную работу увязваць з правадзімымі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі.

---

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ДОГАВАР,

### заключаны інспэктарамі Наргасучота, знаходзячыміся у 3-й групе курсаў участковых інспектароў.

Мы, участковыя інспектары 3-й групы: Астрэйко, Яшынскі, (Асіпавіцкага раёна), Заруба, Спірыдаў, Собаль (Ушац-

кага р-на), Сундукоў, Дзюбін, Башылаў, Афанаськоў (Веткаўскага р-на), Хадакевіч, Мяцельскі, Бецэр (Глускага р-на), Гейфецман (Заслаўскага раёна), Дзятлоў (Гомельскага р-на), Драздоў, Капылаў (Прапойскага раёна), Цітаў, Купрэяў (Касцюковіцкага р-на), Жаўрыд, Гарбуз, (Любанскага р-на), Камароў (Лагойскага р.), Васюрын (Петрыкаўскага р.), Асаенак, Элькінд (Барысаўскага р-на), Ліўшыц, Буцэнко, Кірыленко, Кравец (Нараўлянскага р-на), Пракофенко, Жыхараў, Гапоненко (Рэчыцкага р-на), Даўлюдзенко (Былыніцкага р-на), Малевіч (Магілёўскага р-на), Бурмацкі, Сіднеў (Крупскага р-на), Багданаў, Корт (Парыцкага р-на), Татаронак, Копко (Бярэзінскага р-на), Чарнушэвіч (Старобінскага р-на), заканчываючы 20-ці дзенныя курсы і выезджая на практычную работу у сваі участкі бярэм на сябе наступныя абавязкі:

1. 100% выкананне пастаўленых перад намі задач у галіне правядзення кантроля, правільнага і своечасовага учота і справаздачнасці.

2. Удзяліць максімум увагі справе інструктажа сакратароў сельсаветаў і рахункаводаў калгасаў па правільнаму вядзенню учота і справздачнасці.

3. Весці штодзенную барацьбу са зрыўшчыкамі учота і дысцыпліны уплоць да прыцягнення да адказнасці злостных зрыўшчыкаў учота.

4. Прымаць актыўны удзел у грамадскім жыцці і арганізаваць ячэйкі ВОСУ па сваіх участках.

5. У сувязі з прадстаячым усесаюзным перапісам жывёлы прыняць усе захады для правядзення падрыхтоўкі і правільнага і своечасовага правядзення перапісу жывёлы.

6. На падставе соцспаборніцтва і ударніцтва мы, участковыя інспектары, абавязваемся яшчэ больш згуртавана працаваць па справе учота, улічвая моманты і памылкі за час заняткаў, шляхам большай арганізованнасці і обмену вопытам праз інфармацыйны бюлетэнь.

Гэты дагавор правяраць штомесячна, для чаго прасіць Учотную інспэкцыю быць арбітрам у праверцы і вывадах па выкананню гэтага догавара.

Па даручэнню удзельнікаў курсаў падпісваемся:

| | |
|---|---|
| *Васюрын* | *Жыхароў* |
| *Седнеў* | *Бащыгаў* |
| *Буцэнко* | *Астрэйко* |
| *Ліўшыц* | *Бэцэр* |

---

## Першыя крокі маей работы.

Па прыездзе з Менска, я прабыў у Лоеве 2 дні (10-11/X), дзе прымаў удзел па перапісу бібліатэк у самом Лоеве. 12/X-34 г я атрымаў свой участок г. з. II участак з цэнтрам у в. Уборкі, у якую я зараж-жа накіраваўся. Па прыбыцці у уборкаўскі с/савет (цэнтр) я патрабаваў кнігі первічнага учоту ад Сакратара гэтага с/савета; апошні мне прад'явіў толькі форму № 3. Калі я запытаўся дзе астатнія кнігі з ф. № 1 да ф. № 6, то атрымаў адказ, што такіх кніг не маецца і яны не былі дасланы. Таксама і дапаможных ітогавых спісаў няма.

Наколькі мог, я забяспечыў сельсавет формамі № 1 і 2а, 2б, а астатніх кніг не маецца Праверыў я 4 сельсаветы Уборкаўскі, Ліпнякоўскі, Баршчоўскі і Хаткаўскі, у якіх поўнасцю кніг первічнага учота не маецца.

Дапаможныя ітогавыя спісы я нашоў толькі у адным сельсавеце, а у астатніх 3-х с/с іх не маецца, што вельмі адаб'ецца на студзенскім учоце жывелы.

У свой час кнігі для сельсаветаў не былі размеркованы гаспадарчым вокам.

Зараз я выяўляю колькі маецца ў маім участку пасе-лішч і гаспадарак і дабіваюся запаўнення сельсаветамі кніг № 1, 2а, 2б, 3, 4, і 6.

Мною выяўлена у адным калгасе, што форма, зацверджаная ЦКНГУ, была скасавана і прыменена форма 1933 г. аб чым мною складзен акт і накірован раённаму Пракурору, а копія КНГУ. Маю сувязь з рэдакцыей раённай газэты "Калгаснік".

Участковы Інспектар II участка Лоеўскага раёну

*Левін.*

---

## Консультацыя для участковых інспектароў.

**Пытанне 1:** Як правесці інвентарызацыю па калгасах калі яна да 25 IV-34 г. не зроблена: учытваць на 1/1-34 г. ці на тое число, на катороє робіцца інвентарызацыя.

**Адказ 1:** Згодна пастаноў і інструкцый Наркамзема СССР поўная інвентарызацыя павінна рабіцца штогодна па становішчу на 1 студзеня новага года і абавязкова перад складаннем гадавой справаздачы, якая складаецца на падставе дадзеных інвентарызацыі.

У тым выпадку, як напрыклад у Вашым калгасе, калі інвентарызацыя робіцца пасля 1/I—трэба ўсю маемасць і разлікі перапісаць ў натуры па становішчу на момант фактычнай

інвентарызацыі і да знайдзеных сум або рэчаў дадаць усё тое, што было набыта за час з 1/1-34 г. да моманта інвентарызацыі (праверкі) і адняць суму, або колькасць рэчаў, якія за гэты перыяд убылі альбо выдаткаваны (г. з. таксама з 1/І па момант праверкі). Вы напрыклад прымушаны рабіць фактычную праверку 15/V-34 г., але-ж па становішчу на 1 студзеня 1934 г. і 15/V знойдзіце па касе астачу у суме 205 руб. Па дакумантах (і па запісях у кнігах) за гэты перыяд відаць, што прыбыла ўсяго 300 рублей і выдаткавана 200; у акце інвентарызацыі трэба адзначыць, што на 1 студзеня 1934 г. астача касы была ў суме (205+200—300)= 105 рублей.

Таксама патрэбна інвентарызаваць прадукты, матарыялы, разлікі з асобнымі ўстановамі і г. д.

**Пытанне 2:** Як перайсці на падвойную сістэму учота, калі яшчэ да гэтуль вялася простая сістэма; як быць з тымі абаротамі, якія праходзілі з 1 студзеня 1934 г. па гэты час.

**Адказ 2:** Для перавода калгаснага рахункаводства с простай на падвойную сістэму неабходна скласці інвентарны баланс, які робіцца на падставе дадзеных падрабязнай і добраякаснай інвентарызацыі калгаса па становішчу на 1/І-34 г.; гэты інвентарны баланс падцверджваючы таксама і гадавую справаздачу за 1933 г. з'яўляецца асноўным ісходным момантам для перавода учота калгаса на падвойную сістэму.

Што датычыцца ўсіх тых аперацый і належачых да іх апраўдацельных дакумантаў, якія прайшлі за час з 1/І-34 г. па дзень перавода на падвойную сістэму учота, то на ўсе гэтыя аперацыі трэба скласці сводныя месячныя ардэра (праводкі) і вывесці астачы (сальдавы баланс) па становішчу на момант перавода.

Больш падрабязна аб гэтым пытанні—раім карыстацца выпушчанай кнігай Наркамзема СССР („Калгаснае рахункаводста па амэрыканскай сістэме—цана 1 руб. 85 кап.) Выпісвайце па адрасу: Масква, Саюзоргучот.

**Пытанне 3;** Як учытываць маемасць і яе кошт, калі актаў абагулення няма і як устанавіць паявы і непадзельны фонд.

**Адказ 3:** У тым выпадку, калі актаў абагулення маемасці калгаснікаў нема, раім карыстацца ацэнкай маемасці, складзенай камісіяй у момант інвентарызацыі. Суму ацэнкі маемасці, якая належала таму ці іншаму калгасніку, патрэбна аднесці часткова ў непадзельны і часткова ў паявы фонд. Размер адлічэнняў устанаўліваецца ад адной час-

вертай да адной паловы каштоўнасці маемасці, у залежнасці ад статуту, зацверджанага праўленнем калгаса.

Гэта, зразумела, справа складаная, так як ня лёгка устанавіць, якія дробныя рэчы каму з калгаснікаў належалі у момант абагулення; але-ж, што датычыцца больш буйных рэчаў абагулення, як рабочая жывёла, с/гаспадарчы інвентар і інш.,-то ў кожным калгасе вядома, што каму належала да уступлення ў калгас.

Патрэбна тут мець на ўвазе, што непадзельны фонд складаецца акрамя абагуліваемай маемасці таксама і ад маемасці раскулачанай і дарэмна перададзенай с/советам калгасаў. Адначасова ў непадзельны фонд штогодна ідуць пэўныя адлічэнні ад прыбыткаў і ураджаю калгаса.

**Пытанне 4**: Як правільна зрабіць інвентарызацыю маёмасці: ставіць чарговыя нумары на кожны від маёмасці, пачыная з першага нумара, або чарговы нумар да канца ўсей маёмасці па калгасу.

**Адказ 4**: Пры інвентарызацыі патрэбна ставіць чарговы нумар на кожную рэч з пачатку да канца інвентарызацыі, калі апошняя робіцца ў першы раз. Калі інвентарызацыя ужо была зроблена (напрыклад у мінулым годзе, або раней) нумары раз устаноўленныя захоўваюцца на ўвесь час.

**Пытанне 5**: Як правільна весці кнігу учота руху прадуктаў (ф № 14). Ці патрэбна ў канцы кожнага м-ца падводзіць лінейкай і падбавіць ітогі разам за м-ц і вывадзіць астачу на кожнае першае чысло.

**Адказ 5**: Усе кнігі (у тым ліку і кніга форма № 14) абавязкова падітожваюцца кожны м-ц. Штомесячная праверкв астач не з'яўляецца абавязковай, алеж час-ад-часу пры праверцы матар'яльных каштоўнасцей (на складах, гумнах) дадзенныя учота па кніге кладаўшчыка злічаюцца з дадзенымі па кнігах рахункавода калгаса

Кансультант учотнай Інспекцыі КНГУ *Шустэрман.*

---

Зацверджаю:
Нам. Нач. Кір. Нар. Гас. Учота БССР.
КАЦНЕЛЬСОН.
25|X-1934 г.

# Сетка

## участковых інспектур па раёнам.

70 **Бягомль.**

1-ы участак—Глінскі (цэнтр), Бярозкаўскі, Бярэзінскі, Бягомльскі, Ветуніцкі.

2-гі участак—Мсцінскі (цэнтр), Ясоўскі, Недальскі, Інканскі, Кадлубіцкі, Дамжарыцкі.

71. **Чаусы.**

1-ы участак—Галавенчыцкі (цэнтр), Антонаўскі, Усошскі, Доўга-Мохскі, Воўкавіцкі, Хацкевіцкі, Хацетаўскі, Дужаўшчынскі, Прудаўскі.

2-гі участак—Сухароўскі (цэнтр), Благавіцкі, Самулкаўскі, Халмоўскі, Амхініцкі, Зарэсцянскі, Кароўчынскі, Макравіцкі, Чаускі горсовет.

3-ці участак—Радольмскі (цэнтр), Прылескі, Пуцькаўскі, Ясінаўскі, Сушчэўскі. Жаліўскі, Дзеднаўскі, Рабцоўскі, Суслаўскі.

72. **Чачэрск.**

1-ы участак—Рудня-Барталамееўскі (цэнтр), Палескі, Закрыніцкі, Нісімкавіцкі, Будзішчанскі.

2-гі участак—Покацкі (цэнтр), Рудня-Нісімкаўскі, Бабіцкі, Навілаўскі, Падагоўскі, Залескі, Беляекаўскі.

3-ці участак—Раўковіцкі (цэнтр), Яторскі, Глыбочыцкі, Матневіцкі, Халоцкі, Дудзіцкі, Нова-Зарэчанскі, Нова-Малыніцкі, Наўхаўскі, Ленінскі.

73. **Петрыкаў.**

1-ы участак—Капцэвіцкі (цэнтр), Грабаўскі, Камаровіцкі, Бабуніцкі, Ляскавіцкі, Брынеўскі, Сметаніцкі.

2-гі участак—Капаткевіцкі (цэнтр), Чамошчавіцкі, Колкаўскі, Лучыцкі, Кашэвіцкі, Новаселкаўскі, Галоучыцкі, Курыцкі.

3-ці участак— Скрыгалоўскі (цэнтр), Глініцкі, Петрыкаўскі, Ясавецкі, Пціцкі, Конкавіцкі, Белкаўскі, Макарыцкі, Снядзінскі.

---

Рэдкалегія: *Арцямкоў.*
*Голант.*
*Магідаў.*

Адказны рэдактар *В. Магідаў.*

